# Голас Радзімы

№ 4 (2042)
28 студзеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Зіму сёлета мы чакалі доўга. Спачатку здавалася, што ўсё адбудзецца па звычайнаму раскладу. Потым канец снежня і асабліва пачатак студзеня сталі больш нагадваць сакавік. І хаця, здаецца, цяпло заўсёды было чалавеку бліжэй, у нас з'явіўся сум па маразах, снегу: з чым нарадзіўся, ад таго не адрачэшся. Бадай, яшчэ лепей гэтую тугу па нечым звыклым і таму вельмі дарагім ведаюць нашы замежныя землякі. Многім з іх не хапае такой матухны-зімы, якая была на Радзіме. Часам яе наогул не бывае ў тых мясцінах, дзе зараз іх дом. Ну, а ў нас на Беларусі снег, безумоўна ж, з'явіўся. Свет навокал пабялеў, і людзі супакоіліся: усё ідзе сваім парадкам...

Фота А. ЦАРЛЮКЕВІЧА.

З ПАВЕДАМЛЕННЯ ТАСС

## У ПАЛЁЦЕ — «ПРАГРЭС-34»

У адпаведнасці з праграмай далейшых работ навукова-даследчага комплексу «Мір» 21 студзеня ў Савецкім Саюзе зроблены запуск аўтаматычнага грузавога карабля «Прагрэс-34».

Мэтай запуску карабля з'яўляецца дастаўка на борт пілатуемага комплексу «Мір» расходуемых матэрыялаў і розных грузаў.

ЮБІЛЕІ

## ТРЫЦЦАЦЬ ГАДОЎ ДРУЖБЫ

Створанае ў студзені 1958 года Савецкае таварыства дружбы з ГДР (СТДГ) налічвае цяпер каля трох тысяч пярвічных арганізацый. Яго Беларускае аддзяленне ўключае ў сябе Мінскае і Віцебскае абласныя, Брэсцкае, Гомельскае, Барысаўскае і Наваполацкае гарадскія аддзяленні, а таксама каля ста пярвічных арганізацый на прамысловых прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах, у арганізацыях і ўстановах. Большасць з іх маюць непасрэдных партнёраў у ГДР, падтрымліваюць і актыўна развіваюць з імі разнабаковыя дружалюбныя сувязі і ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва. Гэта адзначалася на расшыраным пасяджэнні праўлення Беларускага аддзялення Савецкага таварыства дружбы з ГДР, якое прайшло 15 студзеня ў Мінску і было прысвечана 30-годдзю ўтварэння таварыства.

У выступленнях старшыні праўлення Беларускага аддзялення СТДГ, старшыні Дзяржкамвыда БССР М. Дзяльца, генеральнага консула ГДР у Мінску В. Янды і іншых падкрэслівалася, што ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва працоўных калектываў БССР і ГДР становіцца ўсё больш разнастайным.

Член прэзідыума Цэнтральнага праўлення Таварыства германа-савецкай дружбы, член прэзідыума Галоўнага праўлення Хрысціянска-дэмакратычнага саюза Германіі Урзула Раурынг Кутцнер, якая выступіла на пасяджэнні, дала высокую ацэнку ўкладу актывістаў таварыства ва ўмацаванне дружбы народаў Савецкага Саюза і ГДР.

ПАМЯЦЬ

## У ГОНАР НАРОДНАГА ГЕРОЯ

Імя Кастуся Каліноўскага прысвоена 1-й Свіслацкай сярэдняй школе. Так увекавечана памяць аб яе выпускніку-гімназісце, кіраўніку сялянскага паўстання ў Беларусі і Літве ў 1863 годзе.

Да 150-годдзя народнага героя, якое адбудзецца сёлета, у школе вырашана адкрыць музей. Яго цэнтральная экспазіцыя амаль гатова. Тут сабраны ўспаміны аб юных гадах Каліноўскага і аб часе яго вучобы ў Свіслацкай гімназіі. Юныя краязнаўцы напісалі гісторыю былой вёскі Ліхасельцы, перайменаванай чвэрць стагоддзя назад у Каліноўскую, а таксама мясцовага калгаса і вуліцы райцэнтра, што носяць яго імя. Тут яна захоўваецца і скульптурны бюст рэвалюцыянера-дэмакрата, які падарыў школьнікам народны мастак СССР З. Азгур.

Багатая экспазіцыя аб К. Каліноўскім і ў раённым гісторыка-краязнаўчым музеі, дзе большасць экскурсій праводзяць школьнікі.

ЛІДСКІЯ ВЫРАБЫ



Прадукцыя Лідскага завода электравырабаў — разнастайныя люстры, свяцільнікі, настольныя лямпы — карыстаецца шырокім пакупніцкім попытам у нашай рэспубліцы і за яе межамі. Калектыў прадпрыемства з кожным годам пашырае асартымент выпускаемых вырабаў, клапоціцца аб гонары заводскай маркі.
НА ЗДЫМКУ: інжынеры-тэхнолагі Таццяна КЛІМЕНКА (злева) і Галіна ЧЭРНІК з вырабамі завода.

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## МАСТАЦТВА СЯБРОЎ

Цудоўную магчымасць зрабіць завочнае падарожжа па ГДР атрымалі палачане — прыхільнікі жывапісу. У экспазіцыі мясцовай карціннай галерэі, якая размясцілася ў адрэстаўрыраваным будынку помніка сярэдневяковай славянскай архітэктуры — Багаяўленскім саборы, прадстаўлена творчасць майстроў пэндзля з акругі Франкфурт-на-Одэры.

Семнаццаць аўтараў з братняй краіны паказалі на вернісажы жанравыя палотны, плакаты і партрэты, пейзажы. Мастак-графік Міхаэл Фоль пазнаёміў шматлікіх наведвальнікаў з творчасцю сваіх калег.

Сёлетняя выстаўка — візіт у адказ нямецкіх сяброў у Беларусь. Год назад з лепшымі творамі віцебскіх жывапісцаў яны пазнаёміліся ў сябе на радзіме.

СЕРВІС



Побач з прахадной Мінскага трактарнага завода адкрыты новы камбінат бытавога абслугоўвання з пральняй, хімчысткай, магазінам кулінарыі, цырульняй, швейнымі і рамонтнымі майстэрнямі. Завадчанам і іх сем'ям тут будзе аказвацца звыш дзевяноста відаў паслуг. Заводскія мастакі з густам афармілі, а будаўнікі аздобілі сцены памяшканняў гранітам, туфам, штучнай скурай. Без перабольшання можна сказаць, што гэта ўстанова бытавога сервісу — адна з лепшых у беларускай сталіцы.
НА ЗДЫМКУ: у холе камбіната.

У ЧАС АДПАЧЫНКУ

## ТЭАТР У МОТАЛІ

Спектаклем «І жартам, і ўсур'ёз» заявіў аб сабе тэатр «Суседкі», які адкрыўся ў вёсцы Моталь Іванаўскага раёна. Яго акцёры — не прафесіяналы. Усе, хто любіць народныя песні, танцы, жарты, некалькі гадоў назад аб'ядналіся ў фальклорны ансамбль з аднайменнай назвай. Неўзабаве выступленні «Суседак» перараслі ў прадстаўленні, у якіх ажывала старажытнае і сучаснае жыццё вёскі, абрады і звычаі, далікатна высмейваліся чалавечыя слабасці і вострa бічавалася зло. Групоўкі карціны суботняга вечара на сцэне, загадчыца бібліятэкі Вольга Мацукевіч непрыкметна для сябе стала сцэнарыстам і рэжысёрам. Дзве гадзіны цудоўнага адпачынку, багатага на музыку і гумар, заразілі многіх, хто сядзеў у зале, марай паспрабаваць сябе ў якой-небудзь ролі. Давялося наладзіць творчы конкурс і змяніць статус «Суседак». З гэтага часу ансамбль стаў тэатрам трыццаці аднадумцаў.

У БЕЛАРУСКІМ ФОНДЗЕ КУЛЬТУРЫ

## ДАБРАЧЫННЫ ВЕЧАР

Гэту сустрэчу можна назваць прэм'ерай. У Мінску, у Доме літаратара, сабраліся пісьменнікі і паэты, мастакі і артысты — прафесіяналы і самадзейныя майстры, прадстаўнікі грамадскасці. Усе яны сталі ўдзельнікамі дабрачыннага вечара, арганізаванага Беларускім фондам культуры. Сабраныя сродкі пойдуць на аднаўленне і рэканструкцыю так званага Верхняга горада ў Мінску — аднаго з нямногіх старажытных куткоў сталіцы рэспублікі.

На вечары прагучалі вершы Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Рыгора Барадуліна, Анатоля Вярцінскага, Уладзіміра Някляева, Яўгеніі Янішчыц, Алеся Разанава, новыя песні кампазітара Уладзіміра Прохарава.

Своеасаблівым і вельмі выразным абрамленнем вечара былі разгорнутыя ў Доме літаратара выстаўкі — жывапісных работ Уладзіміра Матросава і мастацкіх фатаграфій «Народныя святы і абрады».

УШАНАВАННІ

## СВЯТОЧНЫ ДЫВЕРТЫСМЕНТ

Каскад віншаванняў, цёплых сяброўскіх слоў у адрас калектыву Беларускай дзяржаўнай ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга філармоніі гучаў 15 студзеня на ўрачыстым вечары, прысвечаным яе пяцідзесяцігоддзю. З прывітальным словам выступіў міністр культуры БССР Ю. Міхневіч. Намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР Н. Мазай уручыла Ганаровыя граматы і Граматы Вярхоўнага Савета Беларускай ССР работнікам філармоніі, узнагароджаным за плённую работу па эстэтычнаму выхаванню працоўных, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, а таксама знакі заслужаных артыстаў рэспублікі групе выканаўцаў. Аб высокім аўтарытэце беларускіх майстроў мастацтваў у гледачоў усёй краіны гаварыў у сваім прывітанні дырэктар гастрольна-канцэртнага аб'яднання «Саюзканцэрт» М. Бутаў.

Сябры і калегі з Беларускага музычнага таварыства, тэатраў рэспублікі і Саюза тэатральных дзеячаў, працаўнікі сяла з Мядзельскага раёна і воіны, выкладчыкі кансерваторыі і прадстаўнікі шэфскіх арганізацый, удзячныя гледачы выказвалі сур'ёзныя і жартоўныя пажаданні артыстам. У святочным дывертысменце выступілі Дзяржаўныя акадэмічныя народны аркестр і харавая капэла Беларускай ССР, Мінскі камерны аркестр, духавы квінтэт Белдзяржфілармоніі, музычныя ансамблі «Свята» і «Кантабіле», іншыя філарманічныя калектывы. У выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларускай ССР гучала музыка П. Чайкоўскага, Я. Глебава, Д. Смольскага.

ДЛЯ КАЛГАСНАЙ ДЗЯТВЫ

## У «ГНОМІКУ» ЎСЁ ЁСЦЬ

У калгасе імя Горкага на Піншчыне нарадзіўся «Гномік». Такую пяшчотную назву далі новаму дзіцячаму садзіку. Калгасны дом для самых маленькіх па сваёй архітэктуры нагадвае казачны замак. Ён «населены» персанажамі любімых дзіцячых казак і мультфільмаў, якія ўсміхаюцца дзецям са шматлікіх пано і вітражоў. Не кожны нават сталічны дзіцячы сад можа пахваліцца басейнам, салярыем, зімовым садам. У «Гноміку» ўсё гэта ёсць.

У калгасе паклапаціліся аб зручнай дзіцячай мэблі, цацках, посудзе, спартыўным абсталяванні. І зусім хутка ў зімовым садзе з'явіцца экзатычная пальма, а на яе галінах будуць шчабятаць птушкі.

СПАДЧЫНА

## РУЧНІК ДЛЯ МУЗЕЯ

Гісторыю роднага краю памагае аднавіць краязнаўчы музей, які адкрыўся ў калгасе «Наша Перамога» Бялыніцкага раёна. Большую частку экспазіцыі доўгія гады збіраў былы школьны настаўнік В. Гузаў. А калі дакументам і знаходкам ужо не было месца ў кватэры ветэрана, Васіль Дзмітрыевіч і прапанаваў стварыць музей. Праўленне гаспадаркі выдзеліла памяшканне ў Доме культуры.

За памочнікамі справа не стала. Мясцовыя майстрыхі дасталі з куфраў тканыя ручнікі і пакрывалы, старадаўнія святочныя ўбранні, якімі славіцца акруга, перадалі ў музей прылады працы і прадметы сялянскага побыту. Не засталіся ўбаку і дэпутаты мясцовага Савета. Абследуючы па заданню выканкома жыллёвыя ўмовы ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, яны запісалі іх успаміны, сабралі пісьмы ваенных гадоў, дакументы і фотаздымкі.

ТРАДЫЦЫІ

## ЮНЫЯ ПАМОЧНІКІ

Старадаўнія беларускія традыцыі кнігаНошаў адноўлены ў Ацмінаўскім сельскім Савеце Навагрудскага раёна. На прасёлачных дарогах тут можна сустрэць школьнікаў з сумкамі, напоўненымі кнігамі. Юных кнігаНошаў чакаюць у аддаленых вёсках, на фермах, дзе няма бібліятэк. Школьнікі з энтузіязмам узяліся за новую для сябе справу. Яны жаданыя госці ў дамах ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны і працы, адзінокіх і старых людзей. Вучні не толькі дастаўляюць кнігі, але і бяруць заяўкі, могуць параіць, што пачытаць з літаратурных навінак.

Дзякуючы юным памочнікам, значна ўзрасла колькасць кнігалюбаў у бібліятэках сельскага Савета, а кнігі знайшлі сваіх удзячных чытачоў.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

ГРОДНА. Многія жыхары абласнога цэнтра едуць за абновамі ў вёску Верцялішкі — цэнтральную сядзібу калгаса «Прагрэс», а не наадварот, як раней. Тут адкрыўся сучасны двухпавярховы універмаг.

Са стварэннем гандлёвага цэнтра завершана комплексная забудова цэнтральнай сядзібы гаспадаркі. Цяпер у сяльчан поўны набор гарадскіх зручнасцей.

ГОМЕЛЬ. Аўкцыён твораў жывапісу, графікі і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва прайшоў у горадзе. Арганізатары — прадстаўнікі абласных аддзяленняў Савецкага фонду культуры і Саюза мастакоў рэспублікі.

Выручаныя на аўкцыёне сродкі перададзены Беларускаму фонду культуры. Прычым перададзены мэтанакіравана: на стварэнне ў Гомелі літаратурна-мастацкага музейнага комплексу.

БРЭСТ. Ісціну «Не багі гаршкі абпальваюць» пацвердзілі майстры калгаса-камбіната «Памяць Ільіча» Брэсцкага раёна. Тут створана ганчарная майстэрня, дзе наладжаны выпуск прыгожых збаноў, керамічных блюд, сувеніраў, ваз для афармлення інтэр'ераў кватэр, клубаў, школ, дзіцячых садоў. Новая майстэрня ўвайшла ў склад калгаснага будаўнічага камбіната, які, акрамя керамікі, выпускае аддзелачныя гіпсавыя пліткі і розныя сталярныя вырабы.

*ЭКСПЕРЫМЕНТ У ЛЁГКАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ РЭСПУБЛІКІ*

# ГАТОВЫХ РЭЦЭПТАЎ НЯМА

**Ці ўсе «наверсе» бюракраты! Так, іншы раз падмывае адказаць на гэтае пытанне сцвярджальна. Складаны працэс перабудовы сустрэў супраціўленне, ідзе не так хутка, як марылася два гады назад,— вінаваты «там». Відавочна, не без таго. Але ці не значыць, што падобная логіка з'яўляецца спосабам апраўдаць уласную боязь пачаць карпатлівую барацьбу за новае? Журналіст прасочвае гісторыю толькі адной праблемы, вырашэнне якой падказана якраз дзякуючы ініцыятыве «зверху».**

## ЗАПЛАНАВАНАЯ НЕЧАКАНАСЦЬ

Летам 1986 года сярод калектываў прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці Беларусі пранеслася неверагодная навіна. Некалькі буйных прадпрыемстваў галіны апынулася на мяжы банкруцтва. Аказалася, плаціць зарплату рабочым і служачым няма чым, напрыклад, на абутковым прадпрыемстве «Нёман» у горадзе Гродне, на льнокамбінаце ў Оршы, шаўковым камбінаце ў Віцебску.

Першая рэакцыя — «даэксперыментаваліся». Пра які ж эксперымент успомнілі пад гарачую руку?

Вернемся амаль на чатыры гады назад. Тады ў лёгкай прамысловасці БССР пачаўся шырокамаштабны эксперымент па ўдасканаленню гаспадарчага механізма. Працягваўся ён тры гады. І ўвесь гэты час заставаўся пад увагай прэсы. Мяняўся, праўда, тон яе адзнак. Ад бадзёра-абяцальнага спачатку да стрыманага ў канцы. Нам здалося тады, што эксперымент не спрацаваў, як хацелася: дэфіцыт добрых тавараў так і не знік.

Што адбываецца ў галіне, прадукцыя якой складае больш палавіны аб'ёму непрадуктовых тавараў народнага спажывання? Як расцэньваць, фактычна, першыя ў нашай эканоміцы выпадкі фактаў банкруцтва?

## НЕ ІГНАРАВАЦЬ РЭАЛЬНАСЦЬ

Становішчам у галіне спецыялісты не задаволены, паколькі не задаволены яе прадукцыяй спажыўцы. Такой была рэальнасць. Але дзе ўзяць не валютнарысцкія, а навукова абгрунтаваныя рэцэпты лячэння хваробы застою? Мінулы эксперымент — першая разведка практыкай. І мэта ў яго была даволі вузкая: стварэнне ўмоў для павышэння якасці прадукцыі, спыненне назапашвання на складах нехадавых тавараў. Адпаведна прапаноўваўся і метад — устанаўленне павышаных цэн на прадукцыю палепшанай якасці.

Сапраўды, дзякуючы эксперыменту крыху палепшылася становішча спраў з асартыментам і якасцю. Але праявіліся і недахопы. Скажам, непрыемная для пакупніка тэндэнцыя апераджальнага росту цаны над ростам якасці. Засталася праблема зацікаўленасці прадпрыемстваў сумежных галін, што выпускаюць паўфабрыкаты і сыравіну для лёгкай прамысловасці. Вывад — прапанаваны метад не ўключыў у работу гаспадарчы механізм, не ліквідаваў дыктат вытворцы.

І ўсё ж ініцыятары першага этапу эксперыменту пераканаліся, што ўнутры сацыялістычнай сістэмы гаспадарання ёсць магчымасці для вырашэння буйных задач. Таму ва ўрадзе, Дзяржплане, Міністэрстве лёгкай прамысловасці рэспублікі нарадзілася ідэя др[illegible] рэдакцыі эксперыменту, [illegible]ю пачалі са студзеня 1987 года.

Выходзіць, у крызісе абутнікоў з Гродна ўсё [illegible] вінаваты чарговы эканамічн[illegible]эксперымент? Hmm

Аднак самі «пацярпеўшыя» так не лічылі. Іх думка: не ацанілі сур'ёзнасці пачынання, спрацавалі з ранейшым халадком, за што і пакараны. У гэтым вывадзе прагучала згода з умовамі эксперыменту. А ўмовы гэтыя нібыта простыя.

У аснову поўнага гаспадарчага разліку, на які пераведзена галіна, пакладзены такі паказчык, як валавы даход. У залежнасці ад яго прыросту і фарміруецца фонд зарплаты. Іншымі словамі, глядзяць, колькі выручана сродкаў ад продажу прадукцыі; з іх — разлічваюцца з дзяржавай узносамі ў бюджэт мясцовы і цэнтралізаваны, потым — з міністэрствам, а ўжо з астатку — выплата зарплаты, а не наадварот, як было раней.

На першы раз рабочыя «прагарэўшых» прадпрыемстваў не засталіся без зарплаты. Было ўлічана, што новае нараджаецца на базе ўжо існуючай сістэмы, што многае тут яшчэ не адпрацавана, і таму выдалі неплацежаздольным прадпрыемствам крэдыт з умовай абавязковага звароту. Надалей жа прынцып астаткавага налічэння зарплаты будзе выконвацца няўхільна. Ён прымусіць думаць і дзейнічаць нават самых нядбайных.

## ГАСПАДАРЧЫ РАЗЛІК І ДЭМАКРАТЫЯ

Уяўная прастата новага не азначае яго дасканаласці. Найбольш небяспечныя з падводных рыфаў — праблемы танных тавараў (напрыклад, дзіцячага асартыменту) і апераджальнага росту цаны над ростам якасці прадукцыі. На цяперашнім этапе, як прызнаюць самі арганізатары эксперыменту, па многіх прычынах не ўдалося пераадолець ведамасны падыход, вырашыўшы гэтыя праблемы эканамічнымі метадамі.

Таму ў рэспубліцы вырашылі, што абараніць інтарэсы пакупніка ў сённяшніх умовах можа толькі пазаведамасны орган. У даным выпадку — Дзяржплан і Савет Міністраў рэспублікі.

Так, давялося выкарыстаць традыцыйныя метады: «ужыць уладу». Савет Міністраў сваім распараджэннем, выявіўшы ў пачатку года неадпаведнасць планаў прадпрыемстваў патрэбнасцям насельніцтва, вызначыў вытворцам дадатковыя заданні па выпуску вялікай групы тавараў павышанага попыту.

Разумелі, што гэта не эканамічныя метады. Асабліва, калі ўступае ў сілу закон аб працоўных калектывах, доўга абапірацца на іх нельга. Таму пастаўлена бліжэйшая задача — уманціраваць у эканамічны механізм гасразліковыя ўмовы для вырашэння і гэтых праблем.

Прапануемае вырашэнне запатра[illegible] па [illegible] нестандартнага мысле[illegible]. Ва ўрадзе рэспублікі разважылі так. Павышаны прыбытак, які лёгкая прамысловасць мае на працягу апошніх г[illegible]длічваецца ў бюджэт дзяр[illegible] і Міністэрства. Але калі ад гэтых звышпланавых адлічэнняў узяць невялікую частку і накіраваць яе на заахвочванне прадпрыемстваў, якія выпускаюць, скажам, дзіцячы асартымент? Гэта зрабіла б выпуск дзіцячых тавараў выгаднай справай. Падобная гібкасць магла б памагчы і ў выпуску танных тавараў для дарослых.

У новых прапаноў ёсць праціўнікі. Але цяжка спрачацца з тым, што падобная логіка гаспадарчага разліку дэмакратычная. Бо дэмакратыя — гэта не толькі права галасаваць, але і гарантаваная дзяржавай магчымасць задавальнення розных сацыяльных патрэбнасцей.

Эксперымент ужо сёння больш чым у два з палавінай раза павялічыў тэмпы росту прыбытку прадпрыемстваў галіны. Але прыбытак ва ўмовах сацыялізму не самамэта. І цяпер арганізатары беларускага эксперыменту заклапочаны тым, каб ператварыць яго ў канкрэтныя віды новай тэхналогіі, новай тэхнікі, новыя віды матэрыялаў, павялічыць нарошчванне аб'ёмаў выпуску добрых тавараў народнага спажывання. Задума ўжо падрыхтаванага трэцяга этапу эксперыменту — звязаць прадпрыемствы лёгкай прамысловасці з прадпрыемствамі сумежных галін. Але прымусіць іх працаваць на патрэбы галіны не загадзем, а за грошы, якія зарабляе галіна.

Мы сёння гаворым аб першых дзвюх стадыях. І адзначаем, што ўнутры іх яшчэ многа нявырашаных пытанняў. Але не за гарамі ўкараненне трэцяй фазы гасразліку. Тут таксама няма гатовых рэцэптаў. Іх зацвердзіць пошук.

**В. УЛАДЗІМІРАЎ.**

## ЭКАНАМІЧНЫ ЭФЕКТ— МІЛЬЁН РУБЛЁЎ



**Эксперыментальны ўзор прыбора, які дазваляе рабіць галаграфіраванне аб'ектаў памерам да трох квадратных метраў, створаны ў галіновай навукова-даследчай лабараторыі двайнога падпарадкавання Інстытута электронікі Акадэміі навук БССР. Новая распрацоўка вучоных прызначана для машынабудаўнічых, прыборабудаўнічых і іншых прадпрыемстваў краіны. Ад укаранення створаных лабараторыяй прыбораў атрыманы эканамічны эфект каля 1,6 мільёна рублёў. Работы ў гэтым кірунку, ад якіх атрымліваюць узаемную выгаду і распрацоўшчыкі, і заказчыкі, працягваюцца.**

**НА ЗДЫМКАХ: інжынеры-канструктары Павел ШЧАЯ-ЗУБРОЎ, Леанід КАВАЛЁЎ і Ала ГРЫШКЕВІЧ займаюцца распрацоўкай тэхнічнай дакументацыі ствараемых лазерных галаграфічных прыбораў; даследаванні па рэгістрацыі галаграм праводзяць малодшы навуковы супрацоўнік Міхаіл НІЖНІК і лабарант Ірына МАКЕЕВА; інжынер-канструктар Мікалай САНІКОВІЧ.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ і У. ШУБЫ.**





*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*



# ДАДЗЕНА АДЗІН РАЗ

Ужо падыходзіць к канцу студзень, а рэдакцыйная пошта працягвае штодзённа прыносіць дзесяткі навагодніх віншавальных лістоў і паштовак ад нашых суайчыннікаў з розных краін. У іх пажаданні шчасця, здароўя, міру, без якога проста немагчыма жыццё на планеце. Адным словам, усё тое, чаго жадаюць людзі адзін аднаму на Новы год. І амаль ва ўсіх пісьмах зарубежных суайчыннікаў ёсць агульнае: усе яны мараць аб сустрэчы з Радзімай, імкнуцца прыехаць сюды, убачыцца з роднымі, блізкімі, землякамі, пазнаёміцца з тым, як жывуць савецкія людзі, на свае вочы пераканацца, якія велізарныя перамены адбываюцца ў нашай краіне. Для многіх гэта запаветная мара так і застаецца неажыццёўленай. Не дазваляе выбрацца ў далёкую дарогу здароўе, а часцей матэрыяльнае становішча. Але тыя, каму ўдаецца прыехаць, потым ад'язджаюць з такімі ўражаннямі, якія захоўваюцца ў памяці доўгія гады і аблягчаюць жыццё ўдалечыні ад родных мясцін.

Летась Беларускае таварыства «Радзіма» і рэдакцыю «Голасу Радзімы» наведала шмат нашых зарубежных суайчыннікаў. Яны прыязджалі ў турысцкіх групах, у складзе дэлегацый прагрэсіўных арганізацый з розных краін, на адпачынак і на вучобу. Нямала землякоў пабывала і ў гасцях у сваякоў у розных кутках Беларусі па прыватных запрашэннях.

Згадзіцеся, што прыезд госця з Англіі або Аўстраліі ў беларускую вёску — падзея не зусім звычайная. Таму з многімі зарубежнымі землякамі сустракаліся карэспандэнты мясцовых газет, па матэрыялах якіх мы і падрыхтавалі гэты агляд.

Лёс Іосіфа Сяргейчыка падобны да лёсу тысяч нашых суайчыннікаў, якія сёння пражываюць за рубяжом. У 1943 годзе фашысты пагналі яго на прымусовыя работы ў Германію. Так пачаліся вандраванні па свету, якія закончыліся, нарэшце, у Аўстраліі. Толькі праз 36 гадоў адбылася сустрэча з сястрой і братамі. З таго часу не было ў яго большага жадання, як яшчэ раз прыехаць у родныя мясціны. І вось мінулым летам Іосіф Сяргейчык зноў пабываў у роднай вёсцы Дабраволі.

— Пасля майго першага прыезду ў Беларусь прайшло восем гадоў. За гэты час адбылося шмат перамен у маіх землякоў. Людзі жывуць добра. Кожны чалавек выбірае сабе работу па душы і па сваіх магчымасцях,— падзяліўся ён уражаннямі з карэспандэнтам «Гродненской правды». — У час цяперашняга свайго прыезду я пабываў у Свіслачы. Пасёлак проста парадаваў мяне сваімі новымі дамамі, утульнасцю і чысцінёй. Умовы, у якіх жывуць людзі, добрыя. Здзівіў мяне той факт, што ў вас вельмі танныя паслугі. Напрыклад, у цырульні я заплаціў у некалькі разоў менш, чым мне гэта каштавала б у Аўстраліі. Або пошта. Я вось ехаў у госці да сваіх братоў і захапіў з сабой некалькі канвертаў з маркамі, каб яны часцей мне пісалі. Але аказалася, што ў вас яны значна таннейшыя.

Другі раз прыехаў з Аўстраліі і Павел Пачопка, з якім сустрэўся карэспандэнт глыбоцкай газеты «Шлях перамогі». Вось некалькі яго ўражанняў.

— За тры месяцы знаходжання на Глыбоччыне я змог параўнаць і ацаніць змены, якія адбыліся за дванаццаць гадоў. Пераканаўся, што чалавеку працы ў вас павага і пашана. Гасціў у старэйшых братоў Івана і Яфіма ў Варапаеве. Яны атрымліваюць пенсіі, маюць прысядзібныя ўчасткі, пэўныя зберажэнні. Дзеці іх бясплатна вывучыліся, атрымалі спецыяльнасці, працуюць, — расказваў Павел Аляксеевіч. — У апошні час у Аўстраліі ўсё больш цікавяцца вашым жыццём, міралюбівай палітыкай і перабудовай. Вашы поспехі мяне заўсёды радуюць. Але і выклікаюць боль у сэрцы. Позна я зразумеў, якую памылку зрабіў калісьці, вырашыўшы памяняць Бацькаўшчыну на чужыну. Так і не знайшоў сапраўднага шчасця там, сярод чужых людзей.

Пастаяннае адчуванне страты, сум па Радзіме і разам з тым велізарная цікавасць да ўсяго, што адбываецца ў СССР, гэтыя пачуцці ўласцівы большасці нашых суайчыннікаў, вымушаных жыць на чужыне.

Вось што напісаў у газету «Астравецкая праўда» Елізар-Віктар Стэх з Англіі, які прыехаў у госці да родных у вёску Малі. — Хачу падкрэсліць наступнае: знаходзячыся далёка ад родных мясцін, я ўвесь гэты час у душы заставаўся беларусам. У адносінах да Савецкага Саюза не было ў мяне якіх-небудзь варожых настрояў ні ў палітычным, ні ў ідэалагічным плане.

Наадварот, вялікім было жаданне наведаць родныя мясціны, дзе нарадзіўся і вырас, вельмі хацелася сустрэцца са сваімі землякамі, даведацца, як яны працуюць і адпачываюць, як будуюць новае жыццё.

І вось праз чатыры дзесяцігоддзі Елізар-Віктар Стэх зноў апынуўся ў роднай вёсцы.

— Шмат, вядома, перамен адбылося навокал за гэты доўгі час, — піша ён. — Адразу кідаецца ў вочы, што шчасліва, заможна жывуць ... землякі. Вёска Малі, дзе некалі стаялі н... кія, крытыя саломай сялянскія хаткі, цяпер разраслася, стала непазнавальнай. Прыгожыя пабудовы, утульныя, дагледжаныя двары вяскоўцаў, дзе шмат кветак, сведчаць аб ста...чых переменах, аб тым, што людзі тут з'...оцца гаспадарамі свайго лёсу.

Такія ж адчувальныя перамены адбыліся за гэты час і ў асабістым жыцці маіх землякоў. Многія з іх, атрымаўшы адукацыю, сталі вопытнымі, добрымі спецыялістамі.

Зараз і ў Англіі з цікавасцю сочаць за тымі пераменамі, што адбываюцца ў вашым жыцці. У самых шырокіх колах знаходзіць падтрымку тая лінія, якую праводзіць Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў. Зыходзячы са сваіх асабістых назіранняў, уражанняў, лічу: правільныя тыя меры, што прыняты ў краіне па ўсталяванню цвярозага ладу жыцця. Усё гэта робіцца ў інтарэсах чалавека.

Як адзін дзень праляцеў час майго знаходжання ў родных мясцінах. Пабыў тут нядоўга, а здаецца, нікуды ўсе гэтыя гады не адлучаўся.

Хочам пазнаёміць вас і з уражаннямі Мікалая Майсака, пра якія ён расказаў карэспандэнту газеты «Ленінскі шлях» у Лунінцы.

— Я пастаянна цікаўлюся ў сябе ў Англіі жыццём у СССР. Але тое, што я ўбачыў у калгасе «Рассвет», мяне вельмі ўразіла. Я назіраў, як дружна і арганізавана працякала ў гаспадарцы жніво. Збожжаўборачныя камбайны ішлі, як на парадзе... А які ўраджай — 45 цэнтнераў з гектара! У трыццатыя гады, калі пачыналася калектывізацыя на Палессі, збіралі на круг не больш пяці — шасці цэнтнераў. Калі б вы толькі ведалі, як радасна мне чуць аб дасягненнях мясцовай гаспадаркі, аб тым, якое жыццё прыйшло на роднае Палессе!

Я не разумею тых людзей, якія мяняюць сваю Радзіму на тую, дзе лепш жывецца. Такі чалавек рана ці позна адчуе, што ён памыліўся. Страціць Радзіму лягчэй, чым потым яе вярнуць. А іншы раз вярнуць немагчыма.

Вы, савецкія, любіце гаварыць, што ў вас свой гонар. Правільна, такі гонар і павінен быць. Але СССР — і мая Радзіма, і вам, дарагія мае, да такіх людзей, як я, трэба ставіцца з разуменнем. Гэта вялікае гора — страціць Радзіму. Я лічу, што Радзіма — гэта самае святое, што ёсць у мяне. Як маці адна, так і Радзіма. Па розных прычынах я ўжо, відаць, не змагу вярнуцца на Палессе, але захаваю сваю вялікую і малую Радзіму глыбока ў душы назаўсёды. І так, на мой погляд, павінна быць з кожным. Радзіма дадзена нам адзін раз і да самай смерці.

З упэўненасцю можна сказаць, што гэтыя думкі Мікалая Майсака падзяляе значная большасць зарубежных суайчыннікаў. І няма для іх большай радасці, чым сустрэцца з Радзімай зноў. Мы ад душы жадаем, каб як мага больш землякоў змаглі наведаць родныя мясціны, і будзем рады сустрэцца з імі на беларускай зямлі.

*РЫСЫ САВЕЦКАГА ЛАДУ ЖЫЦЦЯ*

# БУДУЧЫНЯ— ЗА АДУКАВАНАСЦЮ

Сёння ў нас многа пішуць і гавораць аб неабходнасці павышэння агульнаадукацыйнага ўзроўню, агульнай культуры маладога рабочага. Так, яшчэ не ўсе маладыя працаўнікі вытворчасці ў краіне і ў Беларусі, у прыватнасці, маюць сярэднюю адукацыю. Прычын тут некалькі: некаторым давялося вучыцца ў 8-гадовых школах, іншыя па стану здароўя, а то і па недастаткова адказных адносінах да вучобы кінулі школьныя класы і пайшлі на вытворчасць. Праз нейкі час пераважная частка з іх хацела б працягваць сваю адукацыю: паводле даных нашага даследавання, гэта прыкладна восем з дзесяці юнакоў і дзяўчат. Таму дзяржава дае магчымасць жадаючым вучыцца ў вячэрніх школах працуючай моладзі.

Можна спытаць: навошта рабочаму чалавеку абавязковая сярэдняя адукацыя? Што дае яму вячэрняя школа? Для адказу прапануем шэраг вынікаў канкрэтна-сацыялагічных даследаванняў, праведзеных апошнім часам у Беларусі, Маскве, Прыбалтыйскіх рэспубліках. Даследчык гэтых праблем Анатоль Арлоў у кнізе «Агульнаадукацыйная культура» прыводзіць д... т: чым вышэйшая адукац... маладога чалавека, тым вышэйшая яго кваліфікацыя. 68 працэнтаў апытаных м...цць як мінімум сярэднюю ...кацыю, адпаведна і працоў...ыя разрады высокія, астатнія 32 працэнты не маюць такой адукацыі, і разрады іх ніжэйшыя. Чым вышэйшы ўзровень адукацыі, тым больш актыўна праяўляюць сябе маладыя рабочыя ў грамадскім жыцці (у 2—3 разы), тым больш часу ўдзяляюць яны самаадукацыі (рабочыя з незакончанай вышэйшай і вышэйшай адукацыяй аддаюць вучобе і самаадукацыі ў 12 разоў больш часу, чым рабочыя з пачатковай адукацыяй, і ў 5 разоў больш, чым рабочыя з няпоўнай сярэдняй адукацыяй).

Беларускія эканамісты і сацыёлагі на падставе канкрэтных даследаванняў адзначаюць, што прадукцыйнасць працы рабочых з сярэдняй адукацыяй на 25—30 працэнтаў вышэйшая, чым у рабочых з васьмю класамі сярэдняй школы. Характэрна таксама, што рабочыя, якія скончылі дзесяцігодку, уносяць прыкладна ў 5 разоў больш рацыяналізатарскіх прапаноў, чым рабочыя з такім жа працоўным стажам, але якія не маюць сярэдняй адукацыі. Дапаўняе гэтую карціну праведзены падлік: рост адукацыі на адзін клас дае прырост прадукцыйнасці працы ў машынабудаванні і лёгкай прамысловасці не менш, чым на 1,5—2 працэнты.

Як бачым, перавагі сярэдняй адукацыі для маладога чалавека істотныя. Варта дадаць, што прадпрыемствы БССР зацікаўлены ў спецыялістах, якія маюць узровень адукацыі не ніжэй за сярэднюю. У апошнія гады на ўсіх буйных прамысловых прадпрыемствах склалася практыка маральнага і матэрыяльнага стымулявання маладых работнікаў вытворчасці, якія маюць узровень адукацыі не ніжэй за сярэднюю альбо працягваюць вучыцца.

У гэтых умовах узрастае роля вячэрняй школы працоўнай моладзі. На думку беларускіх вучоных, яна заклікана не толькі прыцягнуць да сябе моладзь, даць ёй мінімум агульнаадукацыйных ведаў, асноў культуры сучаснага чалавека. Перш за ўсё, яна фарміруе ў яго цікавасць да ведаў, ставіць задачу самастойнага вывучэння і асэнсавання ім складаных дысцыплін. Вячэрняя школа цесна супрацоўнічае з прадпрыемствамі горада. Прыкладаў вельмі многа.

Па ініцыятыве педагогаў адной з мінскіх вячэрніх школ сумесна з прадпрыемствамі Ленінскага раёна сталіцы ўведзены ў практыку так званы «школьны дзень». Ён лічыцца звычайнай рабочай зменай — шэсць гадзін агульнай адукацыі плюс дзве-тры гадзіны курсаў павышэння кваліфікацыі. Пропуск вучэбных заняткаў адзначаецца на прадпрыемстве і ў вячэрняй школе, як прагул на рабоце з наступнымі вынікамі. «Школьны дзень» у школе быў уведзены каля васьмі год назад. І сёння можна ўпэўнена сказаць, што ён сябе апраўдаў. Пры такой арганізацыі вучэбнага працэсу зацікаўленасць у вучобе трохбаковая: школы, прадпрыемства і саміх вучняў. «Школьны дзень» атрымаў шырокае распаўсюджанне практычна ў кожнай другой вячэрняй школе Мінска.

Ёсць і іншыя меры, якія стымулююць цікавасць рабочай моладзі да ведаў. У той жа вячэрняй школе № 19 створаны спецыяльныя курсы павышэння кваліфікацыі, дзе рабочая моладзь мае магчымасць павысіць свой разрад, асвоіць сумежныя прафесіі. На базе гэтай школы створаны універсітэт беспярэпыннай адукацыі дарослых, які мае тры факультэты: этыкі і эстэтыкі, сямейна-бытавой культуры, медыка-біялагічны.

Цікавы вопыт мінскай школы працуючай моладзі № 5. Дырэктар Галіна Золатава расказала, што ў 1982 годзе адсеў навучэнцаў склаў каля 80 чалавек, а цяпер яго амаль няма. Юнакі і дзяўчаты ахвотней прыходзяць на заняткі. Школа сумесна з адміністрацыяй аўтамабільнага завода і аўтакамбіната прымяняе розныя формы маральнага і матэрыяльнага заахвочвання навучэнцаў. На Мінскім аўтамабільным заводзе тым рабочым, хто паспяхова спалучае вучобу ў тэхнікумах і сумленную працу на вытворчасці, у якасці заахвочвання прадпрыемства выплачвае дадаткова да зарплаты штомесячную стыпендыю. Такая ж практыка склалася на дзесятках іншых заводаў і фабрык. Вучні, якія паспяхова скончылі вучэбную чвэрць ці год, атрымліваюць каштоўныя падарункі на вытворчасці і ў школе, іх сем'ям накіроўваюцца пісьмы з падзякай.

Сёння ўжо нікога не здзіўляе тая велізарная зацікаўленасць у адукацыі, што назіраецца ў нашай моладзі. Гэта патрабаванне часу, якое дыктуе само жыццё. Не прагледзець цягу да ведаў, дапамагчы працоўнай моладзі як мага паўней рэалізаваць сябе — адна з важнейшых задач, што вырашае савецкае грамадства.

**Сяргей АНУПРЫЕНКА.**

# REFORM OF A REFORM?

I don't think there is a country in the world where the local schools are not criticized. Parents are rarely satisfied with their children in everything, just as society is rarely satisfied with school. But sometimes it happens that this discontent becomes general and particularly sharp.

Large-scale school reform was carried out in the USSR in 1984, before perestroika was launched. But now it is clear to everyone that it did not produce the expected results. Concerning the financial side, some progress has been made, but there have been no changes regarding spiritual expenditure.

The shortcomings of our schools are concentrated in one phenomenon — "percentomania". According to official reports, about 99 per cent of children and teenagers attending school make satisfactory progress. But the real figure, as everyone admits, is not more than 70 per cent. This means that about a third of pupils receive certificates with false marks.

Practically all schools, all pupils — participants and witnesses — are involved in this fraud (you can't call it anything else). Naturally, those in charge of public education loudly condemn percentomania but any schoolteacher or principal who dares keep back all slow pupils for another year risks facing so many problems that they never take this course of action. Thus, the teachers' unwilling lie is accompanied by the undisguised hypocrisy of their leaders.

How can we untie this knot? After all, how can you suddenly keep back for another year so many schoolchildren? But percentomania can no longer be tolerated because teachers as well as parents are indignant about it.

Eventually, neither the Ministry of Education nor the Academy of Pedagogical Sciences can offer any serious idea on that score. The obvious tendency is to discuss any other point but this one, reflecting the shameful vice of the school.

Meanwhile, foremost scholars and well-known innovators are offering practical measures and methods making it possible to enhance drastically the efficiency of instruction and education.

These measures boil down to teacher-pupil cooperation in lessons, social life and work: not with the subject approaching the children but with children approaching the subject to solve difficult problems jointly. Education is cooperation with children, for which adults are responsible. Pedagogics is the science of the art of cooperation.

Cooperation between children and adults reflects socialist-type relations between people. If we train a child to work and cooperate (can there be any other aim under socialism?), then our education must boil down to cooperation with children.

What do we want from children? Only one thing. That they cooperate actively, consciously and creatively with people and society as a whole. That they do not submit to another's influence nor gain influence over someone else; that they do not adapt to, or transform, everybody around them, but rather cooperate.

Cooperation is a word that implies all high moral qualities. Only in cooperation it is possible to educate man for man. To cooperate with people means to respect them, to appreciate, to sacrifice one's wishes, if need be, to be in need of them and necessary to them. That is the field on which remote and close aims converge, the field of cooperation with people.

The pedagogics of cooperation, whose principles have been formulated by innovators, have received the wholehe d support of teachers. Onl, ne circles of the Ministry of Education and the Academy of Pedagogical Sciences oppose the concept. They are trying ha prove "that everything is i.. der at our schools", that modern pedagogical science has "great achievements".

Which forces will win? Will our schools be able to get rid of the "false per cent"? How will the urgent school reform be realized? This depends, to a large extent, on the resolutions of the forthcoming Plenary Meeting of the CPSU Central Committee to discuss education, and on the efforts of the public. Schools are the result of the social conditions of a country, but they also determine them.

**Simon SOLOVEICHIK.**

# PUBLIC HEALTH

THE CONSTITUTION of our Republic reads that citizens of the Byelorussian SSR have the right to health protection. How is this right practically ensured?

To give a detailed answer to this question a multi-volume book would be written. Here we shall cite some facts and figures which will be helpful in forming an idea about health protection facilities in our Republic. Unlike in the majority of capitalist countries, the main and, perhaps, the most important distinctive feature of health services in Byelorussia is free of charge medical aid. People's health is considered to be the most valuable "capital" of our society. It is difficult for us to imagine that somewhere a help may not be rendered to a suffering person because he cannot afford the cost of it. Can true humanness be associated with the cost of an operation, an electrocardiogram, a dressing, an X-ray picture?

Health care in this country is a state task. It is ensured by the system of socio-economic and medico-sanitary measures and by a wide network of health-improving facilities. All expenses aimed at medical services of the population are paid by the state.

Let us refer to history. In pre-revolutionary Byelorussia there was no unified system of health protection. Many rural inhabitants had never met any doctor. One rural doctor looked after 50,000—100,000 village dwellers. In 1913, there were 1,167 doctors in Byelorussia, i. e. 1.7 doctors per 10,000 of the population. No escape from tuberculosis, typhoid, malaria, trachoma was possible. Medical services for the population were being provided for charity. It is not surprising therefore that more than 25 out of every 1,000 people died every year, every sixth newborn infant died. The average life span equalled to only 37 years.

The victory of the October Revolution has created necessary conditions for accomplishing socio-economic and cultural reforms including the establishment of a system of public health which meets the requirements of the broad masses of the population. Within the shortest po e period of time hospitals and pharmacies been nationalized, budget allocations had been provided for building new hospitals and out-patient clinics. In February 1919, People's Commissariat for Health Protection of the Byelorussian SSR was set up. These measures gave tangible results in a short space of time.

Already in 1940, 5,200 doctors and 18,000 medium level personnel were engaged in protecting people's health in the Republic. 514 large multipurpose hospitals equipped with all the necessary medical devices served the population. Since 1913 the number of hospital beds increased fivefold and amounted to 29,600. 1,500 medical institutions totally unknown in pre-revolutionary Byelorussia: out-patient clinics, women's and children's consultation centres, first aid stations, health stations, dispensaries were established to provide medical aid to outpatients. Medicines were supplied from 677 state pharmacies. Two higher medical schools in the Republic — the Minsk Medical Institute and the Vitebsk Medical Institute — trained doctors, 33 medical specialized schools trained nurses and doctor's assistants.

The Great Patriotic War broke the peace. For three years the territory of the Republic was occupied by nazi invaders. During this time Byelorussia had 80 per cent of its medical institutions destroyed and their property plundered. The Republic lost all medical and research institutes. 6.7 milliard roubles was the material damage inflicted by the war upon the USSR public health. Byelorussia's share in this regard was 600,000,000 roubles.

One had to start reconstruction work. Medical workers managed to liquidate the grave consequences of the war within an exceptionally short period of time. Already in 1944, 410 hospitals for 20,500 beds functioned in Byelorussia. During the first postwar years more than 200 hospitals and 47 out-patient clinics had been restored and built anew. The network of hospitals continued to grow rapidly. In 1950, there were 695 hospitals, in 1968—1,000.

At present the Republic has in its disposition a large network of multipurpose hospitals: regional, municipal and district (zonal). 800—1,000-bed clinical hospitals have been under construction. The specialised departments of these hospitals include cardiology, rheumatology, surgery, urology, ophthalmology, gastroenterology and many others. For instance, more than 20 specialised departments were opened in the Mogilev regional hospital. In 1985, the average capacity of regional hospitals totalled 1,000 beds, 250 beds were in every central district hospital. At present Byelorussian hospitals for treating in-patients can receive 130,000 patients. More than 2 millions patients annually get medical aid at hospitals of the Republic.

59 specialised medical aid centres of the Republic headed by the specialists from the department of the Minsk Medical Institute function in Minsk within the framework of the large medical institutions of the city. The centres on kidney transplantation, vascular surgery, eye microsurgery, cardiology and others can be called the pride of Byelorussian health protection. An up-to-date equipment is installed in all of them making it possible to ensure necessary medical examination and high-quality treatment.

Among the basic achievements of medical science in Byelorussia at the time of the Soviet power period we could list the creation of three higher medical schools, the Institute for the Advanced Training of Physicians, the whole number of research institutes. Byelorussian scientists work out and improve methods of diagnostics and treatment of diseases, they apply on a wide scale the achievements of medical science in practice.

May it not seem a platitude to the reader that, speaking of the Republic's health protection, we have taken 1913 as a starting point. Pre-revolutionary indices do sometimes seem inappropriate. But mentioning them in the given case can be justified because the period under consideration covers, in fact, an average human life span. And it is human health that we speak.

The achievements of the Byelorussian public health system can be taken pride in.

## MESSAGE FOR IRON AGE

Traces of a cemetery of the early Iron Age have been recently discovered not far from the village of Olshany, Brest Region. The finds include dishes, pots, clasps, part of a hairpin, etc.

Scientists believe that the burial ground belonged to the tribes of Zarubinets culture, early Slavs who lived in what is now Byelorussia in the third century B. C. until the second century A. D. The said tribes were then at the stage of disintegration of the primitive communal system. Their occupation included crop farming, livestock breeding, hunting, and fishing, as well as making and working iron.

The cemetery in Olshany will soon become an object of thorough investigation.

## MUSEUM IN DOSTOYEVO

A museum has been opened in the village school in Dostoyevo, Brest Region, where Fyodor Dostoyevsky, classic of Russian literature, was born. The museum has a vast collection related to Dostoyevsky. On display are his books, published in many languages, and documents bearing evidence of the writer's lineage connections with Polesie. Among the exhibits is the plan of the Dostoyevsky estate based on historical documents found in the Lvov state history archives.

## TO TEACH OTHERS ONE MUST STUDY

In the measures worked out by the BSSR Ministry of Public Education in line with the UNESCO "Man and the Biosphere" programme special stress is on the environmental education of future teachers. Optional courses are run at all the higher educational establishments and teachers' training schools to give future teachers of elementary and secondary schools theoretical environmental knowledge and introduce them to Soviet legislation in this field. During their practical work, students watch animate nature, search for rare flora and fauna species entered into the BSSR Red Data Book and take part in planting greenery in villages and urban-type settlements.





*The Machine-building Institute in Mogilev is rather young. Twenty six years ago its lecture-halls and laboratories saw the first students. Now 4400 young people from different cities and villages of Byelorussia and many other republics of the country study there. Together with the Soviet students the representatives from different countries of Asia, Africa and Latin America have the opportunity to become engeners. The future commanders of industry also acquire practical skills at different enterprises of the city.*

*On photos: 1. In the laboratory of the devices for automatic designing.*

*2. Student Vasily Usik was conferred the Honorary Diplomao of the international competition in Prague for his scientific work.*

*Photos by E. PESETSKY.*

З. Азгура — яго Ленініяна. Яна складаецца на працягу доўгіх гадоў працы, і кожны з партрэтаў, помнікаў задумваецца ім як адлюстраванне пэўнай рысы характару, асобы правадыра.

Калі глядзіш на створанае гэтым скульптарам толькі за 40 пасляваенных гадоў (звыш 200 твораў было знішчана гітлераўцамі), здзіўляешся тытанічнай працы, яснай памяці яго. Узнікае пытанне, як выбірае майстар сваіх герояў. І З. Азгур адказвае: «Мяне цікавяць людзі яркія і неардынарныя перш за ўсё ў сваёй справе, людзі, якія пакінулі след сваімі дзеяннямі, і ўсё лепшае ў іх». (Гегель, К. Варашылаў, С. Будзённы, З. Бядуля, А. Чарвякоў, Я. Купала).

— Мае сустрэчы з дзеячамі літаратуры, мастацтва, навукі былі «маімі універсітэтамі», — гаворыць З. Азгур. — Я ведаю больш, чым умею...

Свае веды пра свет, пра розныя часы, пра далёкія землі і больш за ўсё пра родную беларускую зямлю мастак умее сканцэнтраваць у вобразе чалавека.

З. Азгур па праву лічыцца пачынальнікам гераічнага скульптурнага партрэта ваенных гадоў. Партрэты герояў Вялікай Айчыннай — палкаводцаў Г. Жукава і К. Ракасоўскага, Л. Даватара і лётчыка В. Талаліхіна працягваюць галерэю вобразаў народных герояў, змагароў за свабоду — У. Дамброўскага, К. Каліноўскага, В. Цяпінскага, М. Гусоўскага. У. Галубок, М. Аладаў, Ц. Гартны, В. Купрэвіч, Р. Шырма, А. Аладава і многія іншыя, хто складае гонар айчыннай культуры, ажылі ў працах мастака.

Вялікае месца ў жыцці і творчасці З. Азгура займае Якуб Колас. Асабістая дружба пры жыцці і 20-гадовая работа над помнікам пасля смерці паэта ўвасобілася ў скульптурны комплекс-помнік вялікаму песняру ў цэнтры беларускай сталіцы.

У вялікіх і малых музеях краіны ёсць станковыя творы З. Азгура, помнікі яго работы — на вуліцах і плошчах многіх савецкіх гарадоў, а таксама ў Балгарыі і Кітаі, Індыі і Польшчы.

Сёння вядомы скульптар гасцінна сустракае шматлікіх наведвальнікаў у майстэрні. Тут разгараюцца гарачыя спрэчкі і плывуць задушэўныя гутаркі пра жыццё і мастацтва, пра вечныя каштоўнасці, сярод якіх галоўная — чалавек.

**Л. ФІНКЕЛЬШТЭЙН.**

# КРАІНА ДРУЖБЫ І СОНЦА





**«Прыбужжа» — народны ансамбль песні і танца адной са школ горада Брэста. Заснаваны ён яшчэ ў 1954 годзе, і было ў ім тады ўсяго каля трыццаці чалавек. Зараз у ансамблі 150 вучняў, існуюць падрыхтоўчыя групы, якія пастаянна папаўняюць самадзейны калектыў. Артысты «Прыбужжа» даюць у год да пяцідзесяці канцэртаў. Яны выступаюць у родным Брэсце, у гарадах і вёсках нашай рэспублікі, давалі канцэрт у Зорным гарадку, дзе жывуць касманаўты, у Маскве, Клайпедзе, Рызе, Львове, былі запрошаны ў Польскую Народную Рэспубліку. Былыя выпускнікі школы, пры якой створаны ансамбль «Прыбужжа», пакінулі ў кнізе водгукаў такі запіс: «Прыбужжа» — гэта дзіўная краіна танцаў. Гэта краіна дружбы і сонца, іншы раз са сваімі дажджаміняўдачамі, але потым з яснымі пагоднымі дзянькамі. «Прыбужжа» —гэта краіна шчасця!»**

**НА ЗДЫМКАХ: вакальна-харэаграфічная карціна «Дружаць дзеці на планеце»; ансамбль народных інструментаў малодшых класаў; заняткі харэаграфічнай групы вядзе балетмайстар Святлана СЕМЯНЮК; салісткі сёстры Таня і Наташа СВЯЦІЛАВЫ.**

**Тэкст і фота С. КРЫЦКАГА.**





Больш чым месяц вялікае сямейства Марцінкевічаў (яшчэ тады афіцыйна добранадзейнае) жыло ў трывожным чаканні міласэрнага адказу «наследника престола». Няўрымслівая і трапяткая душа пятнаццацігадовай Камілы, магчыма, ужо блукала па парыжскіх вуліцах, а ў дзявочых снах звонка цокала абцасікамі па бруку, цяпло і холад якога тады падзялялі іх шматлікія сародзічы з «літоўскай стараны» — эмігранты. 9 чэрвеня 1851 года Бібікаў паведаміў: «На просьбу... соизволения его высочества не воспоследовало».

Вось так яшчэ ў маладыя гады Каміла перажыла балючыя імгненні, калі чужая рука перакрэслівае твае намеры, ушчэнт разбівае мары, назаўсёды раніць сэрца ўсведамленнем, што ты не гаспадар уласнага лёсу. І яна больш ніколі ў жыцці не папросіць і не стане спадзявацца на міласэрнасць з рук тых, хто перамножна рассяваў цемрашальства, прыгнёт, спараджаў рабоў. Таму, каб нашчадкі гэтай зямлі ніколі не сталі рабамі, яна ўсе свае сілы, веды, талент ахвяруе настаўніцкай справе, асветніцтву (зрэшты, гэтак, як і яе бацька).

Але асвета вызваляе ўсяго ад рабства духоўнага, а рабства фізічнае, іншаземны прыгнёт можна скінуць толькі сілай, зброяй. У нашу нацыянальную гісторыю Каміла Марцінкевіч і ўвойдзе як адна з першых жанчын-рэвалюцыянерак, палымяны барацьбіт за лепшую будучыню народа. Напярэдадні паўстання 1863 года, падчас рэвалюцыйных хваляванняў, яна стане іх актыўнай удзельніцайвыканаўцам, завадатарам выступленняў. Толькі цяпер тэатральнымі падмосткамі ёй служылі не сцэны ў губернскіх шляхецкіх зборнях, а касцельныя хоры, з вышыні якіх, замест музыкі Гумеля, Ліста, Шуберта, на галовы набожных парафіян паліліся рэвалюцыйныя гімны. Каб неяк астудзіць у сэрцы юнай барацьбіткі антысамадзяржаўны запал, мясцовыя ўлады паспрабавалі распраўіцца з дзяўчынай самым агідным шляхам: падчас аднаго з допытаў, 23 чэрвеня 1861 года, мінскі губернатар граф Келер прызнаў Камілу вар'яткай і загадаў змясціць яе ў гарадскую багадзельню. Аднак гэты нягодны ўчынак даў зусім нечаканы для ўлад вынік: жыхары Мінска правялі пад вокнамі багадзельні бурлівыя дэманстрацыі ў падтрымку зняволенай, і паліцыя была вымушана хутчэй вызваліцца ад «возмутительницы общественного спокойствия» з умовай, «каб хто-небудзь узяў яе на парукі па-за горад і яна не прыязджала б без дазволу».

Відаць, забарона не наведваць губернскі Мінск пратрымалася каля паўгода, таму што на старонках жандарскіх данясенняў ад пачатку лютага 1862 года зноў трапляецца імя Камілы Марцінкевіч. У родным горадзе яна арганізавала сустрэчу варшавянам, асуджаным на сібірскую катаргу за ўдзел у рэвалюцыйных хваляваннях. Калі чарговая партыя зняволеных па этапу прыйшла ў Мінск, Каміла выпрасіла ў начальніка варты дазвол заапекавацца ссыльнымі: «Дзяўчына Марцінкевіч прывезла кухарку і правізію, варыла, пякла са здзіўляючай стараннасцю, але пад каравулам, прынесла і піржнае з цукровым надпісам: «Чэсць вам».

Таму нам зразумелая палітычная характарыстыка, дадзеная Каміле жандарскім палкоўнікам Рэйхартам: «Шкодная гэтая дзяўчына Марцінкевіч, і варта было б яе выдаліць, а між тым вышэйшае мясцовае начальства дазволіла ёй займацца навучаннем дзяцей маладога ўзросту, і можна сабе ўявіць, што яна ім прапаведвае,.. характару дзёрзкага і рашучага, а ідэі пераняла ад бацькі». Так упершыню ў жандарскай рэляцыі (а не ў гісторыка-літаратурным даследаванні) быў дакладна вызначаны выток светапогляду, светабачання нястомнай барацьбіткі, якая бацькавы ідэі зрабіла сваімі, не захацела ды і не ўмела хаваць іх ад тысячавокага «жандара Еўропы». Калі ў студзені 1863 года, прыспешанае абставінамі не на карысць справе, у Варшаве ўспыхне паўстанне, якое, нібы полымя па сухім лесе, маланкава перакінецца і на Беларусь, улады арыштуюць бунтарную настаўніцу.

Амаль паўгода пратрымалі жандары дачку Дуніна-Марцінкевіча ў цэлі мінскай турмы, пакуль не прыйшло распараджэнне самога крыважэрнага Мураўёва. На правах галоўнага начальніка края царскі генерал безапеляцыйна вырашыў далейшы лёс дзяўчыны: «Каміла Марцінкевіч... прымала самы дзейсны ўдзел у пашырэнні рэвалюцыйнага руху ў краі... Прымаючы пад увагу яе палітычныя перакананні і нахабны характар... выслаць Камілу Марцінкевіч, як жанчыну шкодную і зусім нядобранадзейную ў палітычных адносінах, на пражыванне пад строгі паліцэйскі нагляд у Пермскую губерню...»

Лёс закінуў Камілу ў горад Салікамск, на два дзесяцігоддзі адарваў ад бацькоўскіх гоняў. Ужо ў сталым узросце яна выйшла замуж за павятовага ўрача (таксама з ссыльных) Казіміра Асіповіча. Калі на пачатку 1880-х гадоў у Салікамск прыйшоў доўгачаканы дазвол вярнуцца на радзіму, для Камілы вяртанне гэтае было горкім. Бо ці лёгка маці пакідаць хаціну, дзе нарадзіліся яе сыны і дочкі, калі не ўсіх яна здолела падняць на ногі, навучыць чытаць па лемантары, калі апошнім спачынкам для маленькіх сталі лясныя берагі халоднай Камы.

Як паведаміла мне ў адным з лістоў праўнучка Дуніна-Марцінкевіча Стафанія Сасноўская, пасля вяртання Каміла з сям'ёю жыла ў Вільні. Там, на могілках св. Роса, яна і пахавана разам з мужам Казімірам Асіповічам. Магілы іх пакуль што не знойдзены.

**Язэп ЯНУШКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: М. КУПАВА. «Каміла Марцінкевіч. Спевы ў мінскай катэдры». Лінарыт.**

ЦІКАВА ВЕДАЦЬ

# АРНАМЕНТЫ МІНСКІХ ЧАРАВІКАЎ

Вось ужо больш як трыццаць гадоў савецкія археолагі вывучаюць Мінскае замчышча. Шмат чаго знойдзена. Высвятліліся некаторыя загадкі, але ўзніклі і новыя. Сярод знойдзеных рэчаў адну з самых значных груп складаюць рэшткі скуранога абутку. На жаль, ніводзін летапіс не паведамляе, што насілі мінскія гараджане ў XI—XIV стагоддзях. І толькі паводле археалагічных знаходак можна рэканструяваць тыя ці іншыя тыпы абутку.

Самыя папулярныя і распаўсюджаныя ў XI—XIV стагоддзях былі скураныя чаравікі. Дарэчы, мы не ведаем, як гэты від абутку называлі ў старажытнасці. Паводле меркаванняў асобных даследчыкаў, у XIV стагоддзі на Русі пачало ўжывацца татарскае слова «башмак».

Галоўнае, што характэрна для чаравіка,— гэта высокія борцікі, або клюшавы, якія закрывалі нагу вышэй костачак. На іх рабілі кароткія паралельныя прарэзы, праз якія працягваўся і завязваўся на пад'ёме нагі або на пятцы скураны шнурок. Магчыма, чаравікі нічым бы не вызначаліся, калі б не багатае аздабленне часткі з іх вышывкаю.

Вышыўка на гэтых вырабах з'явілася недзе ў X—XI стагоддзях і праіснавала да XIV. Яе росквіт і найбольшая мастацкасць прыпадаюць на канец XII і XIII стагоддзе. Часцей за ўсё ўзорам аздабляўся не ўвесь чаравік, толькі яго галоўка, насок. Але ў мінскай археалагічнай калекцыі ёсць і такія, дзе кожны квадратны сантыметр паверхні ўпрыгожаны арнаментам.

Дэкор уключаў звычайна розныя элементы, якія ў цэлым складалі адну кампазіцыю. Гэта пляцёнкі, завіткі, кругі, так званыя прошвы, прашморгі, трохкутнікі і ромбы. Найбольш распаўсюджанымі былі матывы з выявай крына — кветкі, якая распускаецца, сэрцападобнай пальметы і прошвы. Кожны від арнаменту меў свой сэнс, сімвалічнае прызначэнне.

Цэнтральнае месца на большасці арнаментаў займае прошва, якая ў вышытым варыянце ўяўляла сабой каляровы завостраны чатырохвугольнік. Ён цягнуўся ад верхняй часткі пад'ёму нагі да наска. Сувязь гэтага элемента з вобразам дарогі здаецца праваемернай. Але нельга разумець дарогу літаральна — як шлях, па якім ідуць ці едуць. Тут хутчэй—шлях у больш шырокім, абстрактным сэнсе, як сімвал пачатку і працягласці жыцця. Ён супадае з агульнымі пошукамі чалавекам першаасновы быцця. Жыццё (ад нараджэння да смерці) успрымалася як закончанае дзеянне матэрыяльных рэчаў.

Гэтая ідэя адбілася і ў кампазіцыі з прошвы і трохвугольнікаў або прошвы накшталт малюнка цюльпана. Такі дэкор найбольш пашыраны на мінскіх чаравіках XI—XIV стагоддзяў.

Наступным распаўсюджаным матывам упрыгажэння быў крын, або кветка, якая расцвітае («лілея»). Характэрна, што ў арнаментах мінскіх чаравікаў ён звычайна самастойна не існаваў, а толькі ў спалучэнні з сэрцападобнай пальметай, якая ў літаратуры мае яшчэ назву «пупышка», або «сэрца, якое расцвітае».

У арнаментах чаравікаў «дрэва» найчасцей бытавала само па сабе ў выглядзе лазы, парасткаў. Ва ўяўленнях усходніх славян яно існавала адвечна. Адсюль — яго самастойнасць, жыццёвая сіла ў арнаментах, магчымасць расці як знізу ўверх, так і карэннем дагары, што праўда, здараецца радзей.

Непарыўна з крынам і «дрэвамі» былі звязаны і іншыя элементы расліннага арнаменту. І ў першую чаргу—S-падобныя завіткі.

Той жа Кірыла Тураўскі бачыць у іх парасткі «хрыстовай веры», якія пераплятаюцца паміж сабою і ўтвараюць усё тое ж «дрэва» ці «вінаградную лазу». У складаных узорах мін[illegible] чаравікаў гэтая частка арнаменту вельмі пашырана. Але наўрад ці меліся на ўвазе царкоўныя каноны.

Некаторыя даследчыкі лічаць, што сэнс арнаменту згубіўся яшчэ ў першабытную эпоху. Відаць, гэта не так, бо хрысціянскай ідэалогіі не давялося б падпарадкоўваць свае сімвалы ўжо вядомым арнаментальным матывам, хоць бы той самы крын, калі пазнейшы змест не супярэчыў ранейшаму. І чым далей ішло развіццё гісторыі, вызваленчага мастацтва, тым менш падпарадкоўваюцца арнаменты нейкаму царкоўнаму асэнсаванню, а ўсё больш адпавядаюць звычайным мастацкім патрэбам: гармоніі, сіметрыі і г. д. Яскравыя прыклады таму ёсць у беларускім народным арнаменце, дзе старажытны крын і пальмета ператвараюцца ў рытмічныя геаметрызаваныя кампазіцыі, «мыслена дрэва»—у буйныя прыгожыя кветкі, і нават S-падобныя завіткі, атожылкі боскай лазы,—у простыя парасткі, якія злучаюць кветкі канюшыны на слуцкім поясе.

Застаецца пакуль што нявысветленым колер вышываных арнаментаў. На знойдзеных у Мінску падчас раскопак чаравіках слядоў фарбы не збераглося. Не засталося і ніткаў вышыўкі. Але, калі меркаваць па звестках іканаграфіі, па сярэднявечных кніжных мініяцюрах, па біблейскаму тлумачэнню, асноўнымі былі сіні, зялёны, жоўты і чырвоны колеры.

Пытанне ж пра тое, каму належаў такі арнаментаваны абутак, таксама застаецца адкрытым. У XI—XIV стагоддзях, апрача чаравікаў, у Мінску насілі поршні, боты, паўботы і туфлі. Калі знаходкі апошніх двух відаў вельмі рэдкія, то двух першых—даволі частыя. А ці былі якія падзел на мужчынскі і жаночы абутак? Так. Поршні абувалі як мужчыны, так і жанчыны. Боты былі больш зручнымі для мужчын-воінаў і таму—наогул для мужчын.

Каб дазнацца, хто насіў чаравікі, трэба падзяліць іх, напрыклад, паводле апрацоўкі скуры, памераў, арнаментыкі. У такім выпадку лёгка вызначыць дзве значныя групы. У першай—скура добра выдубленая, памер не большы як 24,5 (38-мы) сучасны, багата арнаментаваны верх. У другой—грубая тоўстая скура, вялікія памеры, беднасць арнаментальнага аздаблення ці адсутнасць яго. Абутак першай групы хутчэй за ўсё належаў жанчынам, другой—мужчынам. Зразумела, што маглі быць і выключэнні. Напрыклад, багацце арнаментальнага ўпрыгажэння ў залежнасці ад сацыяльнага становішча і да т. п. Чаравікаў з багатым арнаментам у мінскай калекцыі шмат.

**Сяргей ТАРАСАЎ.**



# БЕЛАРУСКАЯ КУХНЯ

## КАША З ГАРОХАМ

**Гарох замачыць у халоднай вадзе на 3—4 гадзіны. Асобна з панцаку зварыць густую кашу, дабавіць разбухшы гарох і паставіць, каб прэў, у слаба нагрэтую духоўку на паўтары гадзіны. Падаць са скваркамі з свінога сала або з алеем.**

**0,5 шклянкі панцаку, 0,5 шклянкі гароху, 1,5 шклянкі вады, 80 грамаў сала або 4 сталовыя лыжкі алею, соль.**

## СОУС ГРЫБНЫ

**Прасеяную пшанічную муку падсмажыць да крэмавага колеру і, не ахаладжваючы, развесці гарачым булёнам. Атрыманы соус варыць пры слабым кіпенні 15—20 мінут і працадзіць. Дробна нарэзаную цыбулю падсмажыць на тлушчы, перамяшаць з нашынкаванымі варанымі грыбамі, абсмажыць, пераклaсці ў соус, дабавіць соль і пракіпяціць.**

**30 грамаў сушоных грыбоў, 2 сталовыя лыжкі мукі, 3 шклянкі грыбнога булёну, 1 цыбуліна, 3 сталовыя лыжкі тлушчу, соль.**

## ГАЛУБЦЫ З БУЛЬБАЙ

**Качан капусты ачысціць, выразаць храпку і адварыць да паўгатоўнасці ў падсоленай вадзе. Зварaны качан капусты разабраць на лісты. Прыгатаваць фарш, працёртую адвараную бульбу змяшаць з падсмажанай цыбуляй і рубленымі яйкамі. На падрыхтаваныя лісты капусты пакласці фарш і загарнуць іх у выглядзе канвертаў. Галубцы абсмажыць і пакласці ў нізкую каструлю з шырокім дном або ў качанчіцу, заліць смятанным соусам з таматам і тушыць на працягу 30—40 мінут.**

**4—5 штук бульбы, 800 грамаў капусты, 1 яйка, 2 цыбуліны, 3 сталовыя лыжкі тлушчу, 2 шклянкі смятаннага соусу з таматам, соль.**





**Штодзённа ў розных секцыях, гуртках, групах здароўя спорткомплексу «Маладосць» у Маладзечне займаецца амаль тры тысячы чалавек. Кожны выбірае любімы від спорту: плаванне або гімнастыку, цяжкую атлетыку або гарадкі, бег ці лыжы. За апошнія гады тут падрыхтавана 17 майстроў спорту, больш за сто кандыдатаў у майстры і першаразраднікаў.**

**НА ЗДЫМКУ: трэніруюцца гімнасты. Сёння на занятках у іх чатырохкратная чэмпіёнка Алімпійскіх гульняў дзяржаўны трэнер СССР па Беларускай ССР па спартыўнай гімнастыцы Вольга КОРБУТ.**

**Фота У. АЛЯШКЕВІЧА.**

## ЗАСТАЎСЯ НА ЗІМУ

На ўскраіне Верхнядзвінска, у шырокай незамярзаючай затоцы, дзе зліваюцца рэкі Дрыса і Заходняя Дзвіна, пасяліўся лебедзь-шыпун.

Для ўсіх застаецца загадкай, чаму гэта птушка пакінула чараду і не паляцела ў цёплыя краі. Зіма ў нас звычайна поўная самых суровых выпрабаванняў. І нялёгка прыйшлося б шыпуну, але клопаты аб ім прынялі на сябе верхнядзвінцы. Многія, асабліва дзеці, ахвотна падкормліваюць птушку. Застаецца спадзявацца, што каля добрых гаспадароў яна дачакаецца цёплых, сонечных дзён.

**В. ФЁДАРАЎ.**

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ

У рэдакцыю прыйшла просьба дапамагчы адшукаць **ЦІМАШЭНКУ (народжаную КУНДАЛЕВІЧ) Кацярыну Ісакаўну.** Нарадзілася прыкладна ў 1921—1922 годзе ў вёсцы Шолкава Заазерскага сельсавета Полацкага раёна.

У час вайны вёска знаходзілася ў Полацка-Лепельскай партызанскай зоне. Вясной 1943 года партызаны адступілі, і вёска аказалася ў нейтральнай паласе. Часамі жыхары прабіраліся туды з лесу, каб запасціся бульбай. Аднойчы туды з дзвюма сяброўкамі адправілася і Кацярына. Але ім не пашанцавала. Наткнуліся на немцаў і трапілі ў палон. Пазней дзвюм дзяўчынам удалося ўцячы з лагера, а Кацярына засталася. Пасля вайны ўсе лічылі, што яна дзесьці загінула. Але нечакана ў 1958 годзе ў вёску, дзе жывуць дзве яе старэйшыя сястры, прыйшло пісьмо ад Кацярыны Кундалевіч. Яна пісала, што жыве ў Венесуэле, што цяпер яе прозвішча па мужу Цімашэнка, што ў іх трое дзяцей. Усяго ад яе прыйшло 3 або 4 пісьмы. Апошняе — у 1961 годзе. На пісьмах, вядома, быў і адрас Кацярыны Цімашэнкі. Але здарылася так, што іх узяў з сабой яе старэйшы брат. Неўзабаве ён нечакана памёр, і пісьмы згубіліся. Абедзве сястры Кацярыны Цімашэнкі ўжо ў сталым узросце і жывуць у той жа вёсцы. Яны просяць усіх, каму што-небудзь вядома пра лёс іх сястры, напісаць у рэдакцыю **«ГОЛАСУ РАДЗІМЫ».**


РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

**МІНСК-5, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.**
**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80; 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Зак. 169